Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 16 лютага 1999 г. № 17 (548) Кошт свабодны

## Чэкісты папярэдзілі Ганчара, Ганчар папярэдзіў чэкістаў

Раніцай у мінулую суботу старшыня непрызнанага ўладамі Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар быў выкліканы ў КДБ Беларусі. Упаўнаважаны старэйшы лейтэнант А.Чупахін зачытаў Ганчару дакумент, які быў абвешчаны «афіцыйным папярэджанем аб недапушчальнасці незаконных дзеянняў». Незаконнымі дзеяннямі ў гэтай паперцы была названая праца Віктара Ганчара па стварэнні выбарчых участкаў і камісіяў у Мінску і рэгіёнах Беларусі з мэтай правядзення прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня.



Працэдуру гэтага «папярэджання» В.Ганчара адразу ж паказала беларускае тэлебачанне. «Здымалі пачэкісцку — схаванай камерай. Таму і гуку ў рэпартажы не было», — патлумачыў пазней Віктар Ганчар.

Дарэчы, пратакол аб абвяшчэнні папярэджання старшыня Цэнтрвыбаркама не падпісаў. Віктар Ганчар увогуле лічыць, што гэта чэкісты перашкаджаюць Цэнтрвыбаркаму, якая дзейнічае згодна з законным рашэннем Вярхоўнага Савета. Пра што Ганчар у сваю чаргу папярэдзіў старэйшага лейтэнанта Чупахіна і склаў на яго адпаведны акт.

А ў панядзелак яшчэ адзін падобны дакумент Ганчар уручыў і кіраўнікам Гомельскай абласной міліцыі і РАУС Цэнтральнага раёна Гомеля. На мінулым тыдні па іх загадзе ў Гомелі было сканфіскавана 6 тысяч перадвыбарчых плакатаў. Віктар Ганчар расцаніў гэта як дзеянні, якія падпадаюць пад крымінальную адказнасць.

*«Відавочна, што мяне спрабуюць запалохаць»*, — пракаментаваў падзеі апошніх дзён Віктар Ганчар. Аднак, паводле яго ных словаў, сваёй мэты ўлады не дасягнулі.

*«Цэнтральная выбарчая камісія і яе старшыня працягваюць сваю дзейнасць па падрыхтоўцы прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня»*, — запэўніў Віктар Ганчар.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Місія МВФ прызначыла тэрмін

У суботу, 13 лютага, місія Міжнароднага валютнага фонду завяршыла сваю працу ў Мінску. На працягу тыдня яна вывучала сітуацыю ў эканамічнай і грашова-крэдытнай сферах нашай краіны, каб вызначыць, ці можа МВФ выдзеліць Беларусі надзвычайны кампенсацыйны крэдыт у памеры 100 мільёнаў долараў ЗША.

Беларускі ўрад папрасіў грошай у МВФ у сувязі з падзеннем экспарту, што выклікана расійскім фінансавым крызісам, а таксама незвычайна нізкім леташнім ураджаем збожжавых, які, у сваю чаргу, тлумачыцца дрэнным надвор'ем. Нагадаем, што падчас папярэдняга візіту місія адзначыла сур'ёзны ўплыў на беларускую эканоміку расійскага крызісу. Пустая казна прымусіла нават беларускае кіраўніцтва пайсці на некаторыя ўступкі ў канфлікце вакол пасольскіх рэзідэнцыяў у комплексе «Дразды». Тым болей, што прадстаўнік МВФ таксама арэндуе памяшканне ў «Драздах». Аднак ЗША, якія маюць вялікі ўплыў на МВФ, не вярнулі свайго пасла ў Мінск. Амерыканскі бок патрабуе ад кіраўніцтва Беларусі больш жорсткіх гарантыяў выканання міжнародных пагадненняў і аднаўлення дэмакратыі. Міжнародны валютны фонд мае і свае патрабаванні накшт рэфармавання беларускай эканомікі.

Місія правяла дыскусіі з прадстаўнікамі беларускага ўрада і адміністрацыі прэзідэнта і пакінула Мінск. У мінскім прадстаўніцтве МВФ нам сказалі, што *«яшчэ рана весці гаворку пра выдзяленне кампенсацыйнага крэдыту»*. Прэс-служба Нацыянальнага банка паведаміла, што да 1 сакавіка нашая краіна павінна выканаць умовы МВФ, каб атрымаць жаданыя 100 мільёнаў долараў. У сярэдзіне сакавіка ў Мінску чакаюць чарговую місію МВФ. Пасля паспяховага вырашэння пытання аб надзвычайным крэдыце, па словах прэс-службы Нацбанка, Беларусь жадае распачаць перамовы, каб атрымаць крэдыт *stand-by*. Аднак пакуль гэта застаецца толькі ў марах.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Міліцыя перашкаджае выбарам прэзідэнта

**11 лютага ў Гомелі адразу пасля заканчэння рабочай сустрэчы старшыні ЦВК Віктара Ганчара з прадстаўнікамі мясцовых тэрытарыяльных камісіяў па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь былі затрыманы міліцыяй удзельнікі сустрэчы Уладзімір Шыцікаў і Аляксей Заронак.**

Затрыманне праводзіла вялікая група гомельскіх міліцыянтаў пад кіраўніцтвам намесніка начальніка абласной міліцыі Салаўёва і начальніка Цэнтральнага РАУС горада Смолікава. Фармальнай падставай для затрымання сябра БНФ Шыцікава і сябра Беларускай сялянскай партыі Заронка стала тое, што яны неслі ў руках стосы плакатаў-абвестак аб маючых адбыцца 16 траўня чарговых прэзідэнцкіх выбарах.

У пастарунку ў затрыманых адабралі 760 плакатаў і пасля складання пратаколаў адпусцілі. Уладзімір Шыцікаў паведаміў карэспандэнту НАВІНАЎ, што не лічыць сябе ні ў чым вінаватым і збіраецца далей выконваць свой канстытуцыйны абавязак, пра што ён і напісаў у пратаколе затрымання.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



## Дзень Валянціна: закаханых пад арышт

**Некалькі дзесяткаў маладых мінчукоў, па дадзеных БНФ, былі затрыманыя пасля ўдзелу ў акцыі Маладога Фронту, прысвечанай дню святога Валянціна.**

У Беларусі свята закаханых адзначаюць нядаўна і даволі нудна. Віншуюць на словах тых, да каго ляжыць сэрца, у лепшым выпадку, дорацьшакаладку ці дасылаюць паштоўку. І гэта ўсё свята?

Два гады таму маладая частка БНФ вырашыла надаць дню закаханых палітычнае гучанне. Было складзенае прызнанне ў любові пад назвай «Беларусь у Еўропу», якое ў дзень Валянціна паспрабавалі разнесці па заходніх амбасадах. Але ўлады, як прадбачлівыя бацькі, выказаліся супраць такога няроўнага шлюбу. У якасці прэвентыўных сродкаў былі выкарыстаныя дубінкі, слёзацечны газ і, канешне ж, міліцэйскія пастарункі. Усяго па выніках дня Валянціна-97 на перавыхаванне «загрымела» каля 40 рамантыкаў. Летась гэтае свята прайшло больш спакойна. Міліцыя агульнаму сходу моладзі не перашкаджала, а тая свае візіты ў амбасады правяла ў стылі Дон-Жуана, які наведваў сваіх каханак без залішняй рэкламы.

Сёлета ад сакрэтнасці вырашылі адмовіцца. У нядзелю на марш па амбасадах сабралася каля двухсот прыхільнікаў любові па-еўрапейску. Першай з прыгажуняў прымала візітоўцаў Францыя. У яе амбасадзе Яўген Скочка, які кіраваў акцыяй, правёў не менш за дзесяць хвілінаў, што па агульных прынятых нарматывах дастаткова, каб зрабіць самае шчырае прызнанне. Другой перад гарачымі беларускімі хлопцамі адчыніла свае дзверы амбасада Літвы. Усіх, канешне, у госці не пусцілі, але астатнія не пакрыўдзіліся і, пакуль ішло спатканне, учынілі пад вокнамі амбасады сапраўдны феерверк.



Потым «валянцінава пасланне» было данесенае яшчэ да польскай, брытанскай ды італьянскай амбасадаў, але, відаць, менавіта бурнае выказванне любові да літоўскай прыгажуні стала той кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення беларускай раўнівіцы. Ужо на шляху паміж амбасадамі Літвы і Польшчы былі першыя арышты, а масавы хапун «валянцінаў» пачаўся пасля акцыі, на праспекце Скарыны. Некаторых пры гэтым жорстка збівалі. Напрыклад, моцна пацярпеў пры затрыманні 26-гадовы Алесь Піткевіч. Паводле слоў сведкаў, ён аказаў супраціў людзям у цывільным, якія не прадставіліся і пачалі круціць яму рукі. Разам з Алесем затрымалі ягоную сяброўку. Сярод збітых удзельнікаў акцыі апынуўся таксама Алесь Пікула з Баранавічаў. Міліцыянты хлопца адпусцілі, ён неяк дабраўся да дому, але зараз нават не можа хадзіць.

Усяго, па дадзеных Маладога Фронту, падчас акцыі было затрымана 15 паўналетніх юнакоў і некалькі дзесяткаў непаўналетніх, якіх міліцыя адпусціла. На час падрыхтоўкі нумару, у панядзелак, чалавек 10 былі асуджаныя (папярэджанні), а Яўген Скочка як кіраўнік акцыі атрымаў ад суддзі А.Барысёнка з Цэнтральнага суда 10 сутак арышту. Сярод затрыманых міліцыяй значыліся і 5 журналістаў, у тым ліку з Польшчы.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



## Бяспечны саркафаг

**18 лютага ў Мюнхене будуць абмяркоўвацца праблемы, звязаныя з закрыццём Чарнобыльскай АЭС у 2000 годзе.**

Пытанні, звязаныя з закрыццём ЧАЭС, будуць абмяркоўвацца на сустрэчы афіцыйных дэлегацыяў Украіны і краінаў «вялікай сямёркі», якая пройдзе ў Мюнхене 18 лютага. Удзельнікі маючай адбыцца сустрэчы разгледзяць ход выканання дамоўленасцяў, замацаваных у Мемарандуме аб узаемаразуменні паміж урадамі Украіны, краінаў «вялікай сямёркі» і Еўрапейскага саюза. Дакумент прадугледжвае закрыццё Чарнобыльскай АЭС у 2000 годзе. Адначасова з гэтым на сустрэчы ў Мюнхене будуць абмяркоўвацца праблемы, што звязаныя з уводам у дзеянне новых энергаблокаў на Ровенскай і Хмяльніцкай АЭС, якія павінны кампенсаваць Украіне страты энергавытворчасці з-за спынення Чарнобыльскай АЭС. Будуць таксама разглядацца пытанні павышэння бяспекі трэцяга энергаблока ЧАЭС (як вядома, праца ў гэтым накірунку фінансуецца за кошт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця), рэалізацыі міжнароднага плана пераўтварэння чарнобыльскага «саркафага» ў экалагічна бяспечную сістэму і магчымасці прыцягнення новых крыніцаў фінансавання работ на «саркафазе». Дэлегацыя Украіны мае намер паінфармаваць удзельнікаў паседжання аб развіцці Міжнароднага чарнобыльскага цэнтра.

*БелаПАН*

## Жадаем у Беларусь!

**З незвычайнай просьбай звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі ўлады і жыхары Чырванагорскага раёна Бранскай вобласці Расіі. Расіяне жадаюць, каб іхні раён быў уключаны ў склад Беларусі.**

Галоўнай прычынай імкнення чырванагорцаў памяняць сваю дзяржаўную прыналежнасць, стала складаная эканамічная сітуацыя, у якой апынулася Браншчына. Па словах намесніка кіраўніка Чырванагорскай раённай адміністрацыі Мікалая Шагокі, эканамічны стан іхняга рэгіёна сапраўды жахлівы. Не працуе прыкладна 70 працэнтаў прадпрыемстваў раёна, і людзі ўжо больш за паўгода не атрымліваюць зарплату. У сельскай гаспадарцы становішча яшчэ горшае, сяляне не бачылі заробленых грошай ужо тры гады. На думку Мікалая Шагокі, Масква абсалютна забылася на праблемы Браншчыны. Жыхары гэтага расійскага рэгіёна ўжо не чакаюць да федэральнага цэнтра ніякай дапамогі.

Насельніцтва Чырванагорскага раёна (а гэта больш за 16 тысяч чалавек) спадзяецца, што ў складзе Рэспублікі Беларусь жыццё адразу стане лепшым. Запрацуюць заводы і калгасы, працоўным своечасова пачнуць выплачваць зарплату, старым — пенсіі і г.д. На пытанне, адкуль у іх такая ўпэўненасць, Мікалай Шагока сказаў: «Лукашэнка — народны прэзідэнт, і ён не можа дапусціць, каб народу жылося дрэнна». Такім пралукашэнкаўскім настроям у памежным з Беларуссю расійскім раёне здзіўляцца не варта, бо Браншчына, як вядома, з'яўляецца адным з самых актыўных рэгіёнаў т.зв. «чырвонага паса», дзе мясцовая ўлада даўно знаходзіцца ў руках камуністаў.

Дарэчы, пад сваю сепаратысцкую просьбу чырванагорскія чыноўнікі падвялі і гістарычнае абгрунтаванне: раён, у якім і цяпер жыве шмат беларусаў, да 1928 года ўваходзіў у склад БССР і многія людзі памятаюць тыя часы. Чырванагорскі чыноўнік сцвярджае, што з Беларуссю ў Браншчыны заўжды былі больш шчыльныя сувязі, чым з расійскімі рэгіёнамі. Ён лічыць, што просьбу чырванагорцаў павінны вырашыць на вышэйшым узроўні Ельцын і Лукашэнка.

Чыноўнікі з адміністрацыі Лукашэнкі пакуль ніяк не пракаментавалі гэты зварот жыхароў Бранскай вобласці, хоць БТ два дні запар паведамляла аб гэтым у праграме вечаровых навінаў.

На мінулым тыдні, выступаючы ў Мінску на нарадзе па сацыяльна-эканамічных праблемах, Аляксандр Лукашэнка абрынуў свой гнеў на беларускіх «апазіцыянераў-русафобаў», якія, нібыта, даўно хочуць адарваць ад Расіі Бранскую, Смаленскую і Пскоўскую вобласці. Цікава, што ж цяпер адкажа беларускі прэзідэнт бранскім сепаратыстам, якія жадаюць здзейсніць тое, аб чым, відаць, нават і не марылі самыя «адпетыя», па словах Лукашэнкі, беларускія нацыяналісты.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Брытанскі суд прыехаў у Беларусь

**Учора пачаўся візіт у Брэсцкую вобласць судовай дэлегацыі з Брытаніі. У склад дэлегацыі ўваходзяць каля 30 чалавек: суддзі, прысяжныя, прадстаўнікі абвінавачвання і адвакаты — усе яны ўдзельнічаюць у судовым працэсе над 77-гадовым Андрэем Саванюком, былым камендантам паліцыі мястэчка Дамачава, што знаходзіцца ў Брэсцкай вобласці. Іх суправаджае каля 50 журналістаў.**

Заключны этап суда над Андрэем Саванюком пачаўся ў Лондане 8 лютага. Былы паліцай, а потым супрацоўнік брытанскай чыгункі, жыхар Лондана і брытанскі грамадзянін Андрэй Саванюк абвінавачваецца ў ваенных злачынствах, учыненых падчас Другой сусветнай вайны. Канкрэтна яму ставяць у віну забойства чатырох габрэяў — двух мужчын і дзвюх жанчын — у 1942 годзе. А.Саванюк сваю віну не прызнае.

Падчас працэсу адвакат Андрэя Саванюка прапанаваў суду наведаць Дамачава — каб азнаёміцца з месцам злачынства. Суд пагадзіўся, і ўчора прадстаўнічая дэлегацыя ў суправаджэнні супрацоўнікаў вядучых інфармацыйных агенцтваў і тэлекампаніяў Брытаніі пачала знаёміцца з абставінамі справы «на месцы».

Такая вялікая цікавасць сродкаў масавай інфармацыі выкліканая перш за ўсё тым, што гэта першы працэс па ваенных злачынствах, які праходзіць у Брытаніі на падставе Акта аб ваенных злачынствах 1991 года. Апроч таго, ніколі раней англійскі суд у рамках слухання крымінальнай справы не выязджаў па-за межы Англіі — нават у Шатландыю. А цяпер ён у поўным складзе накіраваўся ў далёкую Беларусь.

Тры гады, на працягу якіх ужо вялося следства, Дамачава знаходзілася ў цэнтры ўвагі брытанскай грамадскасці, а некаторыя жыхары прыгранічнага пасёлка нават ездзілі ў Лондан для дачы паказанняў. Цяпер абвінавачваючы бок збіраецца заслухаць паказанні двух найстарэйшых сведкаў злачынства, якія ўсё яшчэ жывуць у Дамачава.

Гэты працэс стаў магчымым толькі пасля прыняцця Вялікабрытаніяй у 1991 годзе закона аб ваенных злачынствах. Гэты закон быў прыняты, бо ўлады Аб'яднанага Каралеўства адмаўляліся выдаваць іншым краінам асобаў, якія падазраваліся ва ўчыненні ваенных злачынстваў. У адрозненне ад іншых брытанскіх законаў, Акт аб ваенных злачынствах дазваляе пераслед асобаў, якія ўчынілі злачынствы не на тэрыторыі Вялікабрытаніі і не з'яўляліся ў той час яе жыхарамі.

На момант прыняцця закона лічылася, што ён можа закрануць каля 300 чалавек, якія цяпер жывуць на тэрыторыі Вялікабрытаніі. Тым не менш, засталося вельмі мала сведкаў, на падставе чыіх паказанняў можна было б судзіць ваенных злачынцаў. Таму да працэсу над Андрэем Саванюком была толькі адна такая спроба. Тады абвінавачваемы ў забойстве трох габрэяў 86-гадовы Шымон Серафімовіч памёр у хуткім часе пасля таго, як суд прызнаў ягонае здароўе занадта слабым, каб вытрымаць удзел у судовым працэсе.

Чакаецца, што прадстаўнікам брытанскага правасуддзя хопіць трох дзён на беларускай зямлі, каб высветліць усе неабходныя абставіны справы. А сам працэс над Андрэем Саванюком скончыцца не раней, чым у сакавіку.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



НАША РАДЗІМА

## Бачаць адно, чуюць другое

**Гомельскія ўлады ніяк не навядуць парадак у забеспячэнні гараджанаў хлебам.**

Ужо месяц, як у хлебных крамах Гомеля выстройваюцца велізарныя чэргі за хлебабулачнымі вырабамі, у асноўным батонамі і булкамі. Купіць хлеб можна ў асноўным толькі ў рабочы час, а вечарам паліцы крамаў пусцеюць, і тым, хто спазніўся, дастаюцца адны толькі пернікі. Мала таго, што хлеба не хапае, але і якасць яго не вытрымлівае ніякай крытыкі. Пры спажыванні складваецца ўражанне, што мука — далёка не галоўны яго кампанент. На гэтым фоне выглядае недарэчным выказванне генеральнага дырэктара «Гомельхлебпрама» камуніста Н.Пугачова, што хлеба ў горадзе хапае «в пределах необходимого». А што хлеб нясмачны, дык гэта як раз дасягненне, бо хлебапёкі, аказваецца, асвоілі летась 25 новых яго гатункаў. Праўда, яны, відаць, забыліся даць новым гатункам адпаведныя назвы кшталту «Блакадны», «70 гадоў без ураджаю», «Сняданак бамжа», «Электаратны»...

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Вугаль Беларусі

**Лесапаляўнічая гаспадарка «Цяцерынскае» Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці аднавіла выраб драўнянага вугалю. Гэты «прадукт» ніхто не выпускаў некалькі апошніх дзесяцігоддзяў.**

Але эканамічны крызіс прымусіў круглянскіх ляснікоў звярнуцца да забытай справы. Іх вугаль карыстаецца вельмі вялікім попытам у вінаробаў, медыкаў. Патрэбны ён, і каб шашлыкі былі смачнейшымі. Ужо выпушчана некалькі дзесяткаў тон гэтага рэчыва. А заказы на яго забяспечылі працай гаспадарку на год уперад.

## У калгасах гасне святло

**Вядома, што самыя вялікія запазычанасці за святло ў вёскі. Сумы па вобласці вымяраюцца ўжо трыльёнамі рублёў.**

Напрыклад, у Мсціслаўскім раёне гаспадаркі запазычыліся райэнерга амаль 100 мільярдаў рублёў. Энергетыкі вырашылі змагацца з гэтым радыкальнымі сродкамі. Яны пачалі адключаць святло ў калгасах. Пакуль лямпачкі не гараць у адміністрацыйных будынках і гаспадарчых пабудовах. Ужо каля дзесятка гаспадарак жывуць у такім рэжыме.

## Калі мы п'ём – дзяржава багацее

**Добрую крыніцу папаўнення дзяржбюджэту прапанаваў магілёўскі губернатар Аляксандр Кулічкоў. Ён прапанаваў павялічыць памеры штрафаў для тых, хто садзіцца п'яным за руль. А грошы накіроўваць на паляпшэнне матэрыяльнай базы ДАІ.**

Напрыклад, у Магілёўскай вобласці колькасць падобных выпадкаў стабільна трымаецца на ўзроўні 10 тысяч у год. Зменшыць лічбу пакуль не ўяўляецца магчымым. Большасць парушальнікаў — вясковыя механізатары. Кваліфікаваных спецыялістаў на вёсцы і так не хапае. Таму даішнікі, затрымліваючы вясковага трактарыста ці шафёра, абмяжоўваюцца выключна штрафамі. Адбярэш правы — пакінеш гаспадарку без дэфіцытных рабочых рук.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

**Шаноўныя чытачы!**
**Газета НАВІНЫ чакае сваіх прыхільнікаў на старонцы Інтэрнэт!**
**http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/**

СІСТЭМА ПРАЦЫ

# Неабвешчаная забастоўка

**З 1 да 5 лютага шафёры гродзенскага дзяржаўнага таксапарка не працавалі. Забастоўка абвешчана не была, яны проста спасаліся на адсутнасць бензіну. Дырэктар парка Сяргей Піскун сказаў: *«Такога не бывае, каб паліва не было ва ўсіх адначасова. І ад таго, што машыны будуць стаяць, бензін не з'явіцца».* Аднак шафёры спынілі працу і запатрабавалі ад адміністрацыі выканання трох патрабаванняў: забяспечыць бензінам, зменшыць арэндную плату за машыны, перавесці на наёмную сістэму працы.**

Трэба сказаць, што гарадскія ўлады не звярнулі ўвагі на адсутнасць дзяржаўных таксовак на вуліцах горада на працягу цэлага тыдня. Як ні дзіўна, байкот таксістаў не асабліва заклапоціў і іхняга дырэктара. Канечне, каб цэлы тыдзень не паступала выручка, адразу ўзняўся б вэрхал. Але сістэма ў таксапарку іншая — кожны шафёр бярэ машыну ў арэнду, якую рэгулярна павінен сплаціць: працуй не працуй, а арэндную плату ўсё адно трэба ўнесці, прычым своечасова. Адміністрацыя толькі збірае грошы, астатняе яе асабліва не датычыць. Колькі хто працуе ды збірае выручкі — не яе справа, і бензін купляць ды рамонт рабіць шафёры мусяць таксама са сваёй кішэні.

Арэндная сістэма існуе больш за дзесяць гадоў. Як сказаў С.Піскун, яна дала магчымасць шафёрам стаць гаспадарамі сваіх машын, дбаць пра таксоўкі, каб яны лепш і дольш служылі. Аднак становішча змянілася. Новыя машыны даўно не купляліся, а на старых гараджане ездзіць не хочуць. Таксапарк атрымлівае менш заказаў па тэлефоне, бо ў горадзе з'явіліся моцныя канкурэнты — з дзесятак прыватных таксафірмаў.

Арэндная плата за машыну роўная ў месяц 83 долары, а калі працуюць два напарнікі, кожны плаціць палову. Натуральна, што аплачвалася арэнда ў рублях — па афіцыйным курсе. Апошнім часам, калі афіцыйны і рэальны курсы долара амаль зраўняліся, у месяц за машыну трэба заплаціць больш за 10 мільёнаў. Таксісты лічаць, што праца стала зусім нявыгадна. Ёсць яшчэ адна вялікая праблема — бензін. Запраўляюцца таксоўкі «на агульных падставах» — у 2-3 гадзіны ночы, або ўвогуле з вечара, займаюць чаргу на запраўку. Спяць у машынах, каб, калі толькі хопіць, атрымаць свае 20 літраў бензіну па дзяржаўным кошце. А гэтага паліва ім звычайна хапае толькі на дзень. Карацей кажучы, днём возіш пасажыраў, начамі дзяжурыш на запраўцы. Можна, канечне, свабодна заліць дарагога «лукойлаўскага» бензіну, але, каб атрымаць прыбытак, давядзецца браць з пасажыраў падвойную плату. Так што цяпер шафёры патрабуюць адмяніць непасільную арэндную сістэму. Яны хочуць працаваць як у савецкія часы: здаў у канцы дня выручку і гуляй сабе.

У мінулую пятніцу ў таксапарку адбыўся сход. Большасць прагаласавала за адмену арэнднай сістэмы. Але дырэктар С.Піскун заяўляе, што гэта немагчыма, бо таксапарк мусіць сплачваць вялікі штраф (100 тысяч долараў паводле дзяржаўнага курсу), прызначаны прадпрыемству падатковай інспекцыяй у 1997 г. за парушэнні пры аперацыях з наяўнымі грашыма. Шафёры заяўляюць, што не вінаватыя ў гэтым, і патрабуюць свайго. Тым не менш сход таксістаў вырашыў выйсці на працу, а выканання сваіх патрабаванняў дамагацца іншымі метадамі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Сон розуму нараджае пачвараў



*Ю.Хадыка, намеснік старшыні БНФ «Адраджэньне», прафесар*

«Власть, а тем более большая, как известно, портит человека». А.Лукашенко (Народная газета, 16 снежня 1993г.)

Так гаварыў народны дэпутат А.Лукашэнка меней чым за год да таго, як беларускі народ даверыў яму найвышэйшую пасаду ў краіне з надзеяй, што яго ўлада не сапсуе. Але першы прэзідэнт гэтай краіны, маючы «амаль царскія паўнамоцтвы», захацеў яшчэ большай улады. Тады ён зрабіў дзяржаўны пераварот і забраў сабе ўсю ўладу. Сёння ён стаў «сцяною», за якой хаваюцца ягоныя памагатыя. Ён сам вырашае, хто і што павінен рабіць. Што і колькі каму есці. Каму «вырываць ногі», а каму «адкручваць галовы». Колькі і як кіраваць яму краінаю. Ён стаў як бог, які карае і мілуе «па вялікай прамудрасці сваёй».

Толькі, на жаль, наш «бог» пераважную большасць карае. Голадам і смерцю, паборамі і міліцэйскімі дубінкамі. Мілуе толькі выбраных — тых, хто вакол яго. Тых, хто, апусціўшы вочы, выслухвае ягоныя паказальныя разносы на вачах мільёнаў. Тых, хто выконвае ягоныя беззаконныя дэкрэты і прыхамасці. Хто пляскае ў далоні ў адказ на ягоныя хамскія жарты. Хто прадае Бацькаўшчыну, каб задаволіць ягоную шалёную прагу да ўлады. Хто робіць выгляд, што верыць у ягоныя абяцанні «стабілізаваць», «вывесці», «накарміць», «аднавіць», «запусціць» і г.д.

Аднак не «запускаюцца» заводы, не спыняецца інфляцыя, не большыцца мяса ў каструлях у згаладнелага, выміраючага насельніцтва. Затое большыцца ворагаў і целаахоўнікаў у «бога». Усё болей нервовымі і пагрозлівымі становяцца ягоныя прамовы. Усё больш ахвяраў ягонага рэжыму.

Вось і паўстае пытанне, ці «бог» А.Лукашэнка? Ці не той ён чалавек, якога сапсавала бязмежная і бескантрольная ўлада? Калі ён не быў сапсаваны раней.

Успомнім жа, што мы ведаем пра чалавека, якому так даверліва аддаў наш народ «вялікую ўладу» летам 1994 г. Успомнім словы жонкі ППРБ: «Мой Сашка нідзе больш за два гады не затрымліваўся». І затрымліваўся — дзе? Вызвалены камсамольскі сакратар сярэдняй школы. Інструктар райкама камсамола. Палітрук войскаў КДБ. Вызвалены сакратар таварыства «Веды». Сакратар партарганізацыі саўгаса. Толькі два гады ён працаваў, а не агітаваў. Працаваў дырэктарам саўгаса, які пад ягоным кіраўніцтвам не стаў лепшым. Мабыць таму, што працаваў не розумам, а «скручваў галовы» і «вырываў ногі».

Не навучыўшыся працаваць, ён навучыўся агітаваць. Па-камсамольску, па-партыйнаму, па-савецку. Гэта азначае — хлусіць. Выдаваць пажаданае за існуючае. Так вымагае мастацтва агітацыі. На самой справе, якое мае значэнне, што не ён, а В.Ціхіня галасаваў супраць Белавежскіх пагадненняў, калі яму патрэбна быць адзіным абаронцам СССР? Якое мае значэнне, што С.Шушкевіч не краў цвікоў, калі А.Лукашэнку трэба прыбраць Шушкевіча з дарогі да ўлады? Ці каму цікава, хто страляў у легкавік кандыдата ў прэзідэнты, калі гэты стрэл быў вельмі неабходны для самога кандыдата?

Толькі аднойчы Лукашэнка прагаварыўся. Калі ўжо прэзідэнтам, парушаючы ўсе мажлівыя законы, заклікаў людзей не хадзіць на выбары Вярхоўнага Савета. І сцвярджаў пра кандыдатаў у дэпутаты — усё роўна падмануць. Ведаў, што гаварыў. Па сваім вопыце, які з кожным днём становіцца багацей.

Так шчыра нядаўна «таварыш прэзідэнт» тлумачыў народу па тэлевізіі, што не можа ён праводзіць свае перавыбары летам бягучага года — бо народ «даверыў» яму ўладу да 2001 года. Гэта народ можа не памятаць, што галасаванне па пытанні аб папраўках да Канстытуцыі-94 было дарадчым. Што папраўкі павінен быў прымаць Вярхоўны Савет, як таго патрабаваў закон. І што прэзідэнт сваім асабістым указам (ці дэкрэтам — не памятаю) беззаконна ўвёў новую канстытуцыю ў дзеянне. І гэтым жа асабістым указам працягнуў свае паўнамоцтвы на 2,5 гады. «Народ» можа не памятаць. Але прэзідэнт павінны гэта ведаць. Так што спасылкі на «народ» і Канстытуцыю і ў дадзеным выпадку не болей чым хлусня.

Што тычыцца народа, дык, на думку прэзідэнта, ён даверлівы, нават лёгкаверны. Баюся, што гэта памылка. Народ бачыць, што прэзідэнт стаў малочным братам вядомага вынаходніка фінансавых пірамідаў С.Маўродзі. Што па ягоным прыкладзе прэзідэнт пакрывае адны нявыкананыя абяцанні іншымі, яшчэ больш шчодрымі. Але вынік такі ж, як у Маўродзі, — галеча. Не прэзідэнта, зразумела, а народа. Народу, які паверыў у агітацыю ў 1994 г., прыйшлося дорага заплаціць. Наўрад ці ён яшчэ раз трапіць на тую ж вуду. Бо ведае народ евангельскую мудрасць — не па словах, па справах судзіце іх. Іх — гэта людзей, якія абяцаюць.

Таму прэзідэнт і шукае магчымасці ўлізнуць ад выбараў 16 траўня, якія прызначыў законны Вярхоўны Савет. Таму і пагражае ўсім. Рабочым, якія патрабуюць павышэння заробкаў. Сялянам, якія зніжаюць рэнтабельнасць вытворчасці. Верхнякальшчыкам, якія не ў стане «прыбавіць яшчэ чуць-чуць». Партыям, якія сцвярджаюць, што прэзідэнт проста не ў стане кіраваць краінай. Не даверае ўжо міліцыі. Таму і захварэў малады міністр, які служыў верай і праўдаю.

Выбары 16 траўня адбудуцца. Таму што так патрабуе закон і праўда. Прэзідэнт правы (рэдкі выпадак!), калі гаворыць, што народ мусіць тысячу раз падумаць. Думаць значна карысней для жыцця, чым даверацца абяцанкам. Тым больш такім абяцанкам, для праверкі якіх было пяць доўгіх гадоў. Мяркую, беларускі народ больш не будзе галасаваць у стане сну розуму, які нараджае пачвараў.

**Юрый ХАДЫКА**

# Мэта – вынішчыць

У антынародных правіцеляў не стае грошай, каб хоць трохі павысіць заробкі працоўным і павялічыць пенсіі пенсіянерам, якія ўжо жывуць за рысай беднасці.

У той жа час знайшоўся не адзін мільярд «зайцаў», каб правесці чарговы перапіс насельніцтва. Мэта адна: далучыць Беларусь да Расіі, знішчыць маю родную мову і ўсё беларускае і, як некалі драпежная імперыя расійскага цара, ператварыць Беларусь у адсталы, зацюканы Заходні край Расіі. Ужо шмат зроблена ў гэтым накірунку. Нават пры Сталіне ў Маладзечне адна з дзвюх школ (гэта значыць, 50%) была беларускамоўная. А цяпер з 12 школ толькі адна на беларускай мове (8,3%).

Беларускасць выбівалі і выбіваюць на прадпрыемствах і ва ўстановах, у школах і садках, у калгасах і саўгасах. Над беларускамоўнымі ў твар рагочуць.

**Э.САЛАГУБ,**
*г.Маладзечна*

# Письмо Саше

Здравствуй, Саша!

Обращаюсь на «ты» по праву старшего, и еще потому, что ты сам, я заметил, любишь всем «тыкать». Может, лучше поймешь то, что я хочу тебе объяснить.

Ты недавно по телевизору меня как только ни обзывал: и фашистом, и русофобом, и захватчиком чужих земель. Договорился до того, что я якобы сам себя избил, чтобы тебе навредить. Понимаешь ли ты, какую чушь несешь? Ты ведь знаешь, что я даже тебя пытаюсь защищать, когда у людей руки чешутся.



*А.Санников, координатор Хартии-97 по международным связям*

А ведь тебя, Саша, трясло от страха, когда ты беспокоился по моему поводу. И это, скажу тебе, правильно. Потому что я от тебя устал. Устал испытывать стыд, когда ты болтаешь что ни попадя от моего имени. Устал терпеть твое хамство по любому поводу. Устал видеть обманутых тобой людей, которые тебе поверили, а сегодня спиваются, потому что только дешевая водка им по карману. Устал смотреть, как ты унижаешь подчиненных, которые и старше, и умнее тебя. И всем этим ты занимаешься в моем доме.

А ведь у тебя были все шансы стать человеком. Спроси, если чего не знаешь. Книжки почитай толковые, а не только контурные карты. Походи по земле, приглядись...

Я ведь пытался тебе помочь. Помнишь, как я тебя во Францию свозил? Думал, что-то дойдет. И что ты понял? Ни-че-го. Ладно, хоть поел там нормально. И я ушел от тебя, потому что ты уже считал, что все знаешь и все умеешь, хотя на самом деле застрял на уровне очень средней школы.

Тебе многие пытались объяснить, чем кончают такие, как ты. Те, кто лазит в чужой карман, как в собственный, и выгребает все до последнего, чтобы хором да катков себе понастроить. Выгоняют их с работы рано или поздно, а потом судят с конфискацией.

Беги от греха, Саша. Лично мне ты безразличен. Я-то знаю, что дни твои на «ответственном посту» сочтены. Так что можешь в мой адрес матюгаться или что похуже. Разрешаю. Только сам еще больше осрамишься. Но вот другие — и ты не представляешь, как их много — просто так тебя не отпустят. Так что мой тебе совет — собери самое необходимое и дуй куда-нибудь в тайгу. Ты ведь вырос среди животных и растений, вот и вернись туда. Можешь взять пару-тройку лакеев, чтоб по утрам твой флаг над избой поднимали и гимн нерушимый на губах тпрунькали. Только бери самых надежных, а то другие тебя и в тайге сдадут. Ты не смотри, что вокруг тебя сейчас полно людей с преданным взглядом и мокрыми штанами. Они тебя уже сдают. Можешь там даже объявить себя субъектом федерации с теми двумя-тремя, которых возьмешь с собой, подписывать договоры о слиянии, издавать для них декреты. Можешь даже какую-нибудь ядерную ракету выстрогать. А лучше займись делом. Ты ведь, в общем-то, работящий. Хоть огород заведи, семян я подошлю.

Поверь, зла я тебе не желаю, но и себе зла не хочу.

**Андрей САННИКОВ**

# А.Лукашенко борется с инакомыслием

Давно известна роль личности в истории. Великие люди (государственные деятели, ученые, писатели и т.д.) всегда оказывают серьезное влияние на жизнь собственного народа.

Чем памятна эра правления президента Лукашенко? В начале масса заверений и обещаний по жизненно важным для каждого белоруса вопросам: повышение жизненного уровня, экономическая интеграция с Россией, борьба с коррупцией. Затем пошли реальные дела. Борьба против процесса белорусизации, свертывание экономических реформ, борьба за пожизненное сенаторство, борьба с инакомыслием, референдум... Ни дня без борьбы.

И, как итог пятилетнего правления Лукашенко, я и моя семья получили следующее:

а) Резкое снижение жизненного уровня вместо обещанного повышения. Моя пенсия военнослужащего, в пересчете на доллары, упала с $90 до $20, зарплата у жены (медика) — с $45 до $10, у дочери (инженера) — с $50 до $13.

б) Красно-зеленый флаг, герб (аналог советского) и портрет первого президента Беларуси А.Г.Лукашенко.

в) Так и не запущены заводы, разорено сельское хозяйство.

г) Вместо решительной борьбы с коррупцией — бескомпромиссная борьба с оппозицией и инакомыслием.

д) Превращение силовых структур, судов, прокуратуры в антинародный аппарат насилия.

е) Вместо клятвенного обещания соблюдать Конституцию — превращение ее в «путану» с соответствующим к ней отношением.

ж) Политическая и экономическая блокада Беларуси со стороны ведущих стран мира и Европы.

з) Неуемное стремление побыстрей сдать «старшему брату» — президенту России — суверенитет Беларуси.

Думаю, настала пора развенчать миф о гениальности и незаменимости А.Г.Лукашенко. Пожелать ему здоровья и отправить на заслуженный отдых.

**В.МИХАЛЬКЕВИЧ,**
*г.Могилев*

# Чтобы выжить, надо не есть, не пить

Действующий президент за свои годы правления довел страну до кубинского варианта — полнейшей изоляции большинством стран Европы и мира. Так на Кубе настоящее лето, вокруг море (а это природный ресурс — рыба), а белорусу на теплую одежду сколько надо, а торф и т.д., и зарплата — не давали с октября 1998 года. Работая в колхозе и получая ту зарплату, которую выдают с опозданием в несколько месяцев, мне, чтобы купить велосипед, нужно работать год и не есть и не пить, не говоря об одежде.

Чем бороться за выживание, лучше умереть в борьбе за достойную жизнь. Разве мы, белорусы, глупее литовцев, эстонцев, латышей, поляков? Те воюют между собой, куда сбыть продукты, а у нас кризис, и это уже 4-й год президентства Лукашенко.

Товарищ президент (Лукашенко А.Г.), наберись смелости — уйди с этого поста! Колхозники моего колхоза «1 Мая» Дрогичинского района проголосуют за то, чтобы ты занял пост председателя колхоза и не мучил народ нашей страны.

И еще. Какая разница между президентами Казахстана и Беларуси: один проводит выборы за два года до официального срока, а второй путем обмана (в частности, моей семьи) продлевает через референдум свое «декретовское» правление на два года.

**Павел ЕЛЕЦ,**
*Дрогичинский район*

БІБЛІЯТЭКА ЦІКАЎНАГА

# Беларусь – tabula rasa расійскіх падручнікаў

Бальшыня артыкулаў, якія звычайна змяшчае часопіс «Беларускі гістарычны агляд», разлічаны на спецыялістаў. Шэраговы чытач, прызвычаены да спрошчаных трактовак і дэфініцыяў, наўрад ці здолее атрымаць інтэлектуальную асалоду ад навуковай мовы, спасылак і каментароў. Відаць, з гэтае прычыны часопіс выдаецца малым накладам і не намагаецца пашыраць сваю аўдыторыю. Аднак чэрвеньскі сшытак часопіса за 1998 год, які, падобна заробкам у Расіі, дайшоў да спажыўца толькі напачатку года бягучага, варты ўвагі шырокіх колаў, асабліва ж ён мусіць зацікавіць працаўнікоў народнай асветы, і ў першую чаргу настаўнікаў гісторыі. Менавіта для іх будуць карысныя артыкулы «Індзейская вайна» Тадэвуша Касцюшкі» Алеся Сімакова, «СД у Баранавічах (1941—1943)» нямецкага даследніка Гартмута Руса, «Спробы арганізацыі беларускага войска» Франца Кушаля.

Але найбольшую цікаўнасць выклікае артыкул Генадзя Ластоўскага «Беларусь і беларусы ў расійскіх падручніках па гісторыі». Напачатку аўтар уважліва аглядае змест расійскіх праграмаў 1992 і 1997 гадоў для школьнікаў 5—11 класаў, вышукваючы згадкі пра Беларусь. Праграмы дэманструюць мізэр узгадак і мізэр вучэбных гадзінаў, адведзеных асвятленню падзеяў на беларускіх землях за тысячу гадоў. Прыкладам, тэма «Народы, позднее вошедшие в состав Российской империи в XIII-XV вв.» змяшчае нарыс утварэння, характарыстыку тэрыторыі і дзяржаўнага ладу ВКЛ, апісанне «личности князя Гедиминаса(?)», «внешняя политика и войны, Украина и Белоруссия в составе ВКЛ», «война с Россией в конце XV в.», ха-


1998 ГОД ПЯТЫ

БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

BELARUSIAN HISTORICAL REVIEW

Том 5 Сшытак 1 (8) Старонкі 1—348 Чэрвень 1998

Менск

рактарыстыка князя Ягайлы, Грунвальдскай бітвы, Малдовы, Лівоніі, Каўказа і Сярэдняй Азіі. На ўвесь гэты матэрыял, які наўрад ці змесціцца ў асобны падручнік, адводзіцца 2 гадзіны. (З улікам апытання вучняў і праставлення адзнак — рэальна адна.) Канечне, захаваліся неабходныя для акцэнтацыі напамінкі пра «польска-літоўскі прыгнёт на Беларусі» (пра рускі прыгнёт, зразумела, ані слова) ды іншыя старадаўнія стэрэатыпы.

Другі раздзел артыкула прысвечаны аналізу зместу школьных падручнікаў «История Отечества» (Москва, Просвещение, 1996), «История России XIII-XV вв.», «История России XVI-XVII вв.» (Москва, Мирос, 1995), «История России с древнейших времен до конца XIX в.» (в 2-х книгах. Москва, Просвещение, 1995), «История Отечества. XX в.» (Москва, Дрофа, 1995) ды інш. Тут пануюць пададзеныя двума радкамі міфы рускай гістарыяграфіі накшталт «занятия литовскими князьями земель Западной Руси». З крывавых падзеяў знішчальнай вайны 1654-1667 гадоў узгадваецца ўзяцце Смаленска і (сціпла, без каментару) «33 гарадоў восточной Белоруссии». Усе 2,5 мільёна ахвяраў, жахі, вынішчэнне гарадоў і вёсак засталіся за межамі падручніка (адпаведна — за межамі ведаў і памяці расійскага школьніка). Беларусь у XX стагоддзі аказалася цікавай толькі актам уваходжання у СССР у 1922 годзе, а з падзеяў Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі ўвага нададзеная аперацыі «Багратион».

Ацэначныя матэрыял, які патрапіў у падручнікі, узнаўляе выверана стагоддзямі вялікадзяржаўны падыход да беларуска-расійскіх стасункаў і бессумніўнае падкрэсленне «прогрессивной роли воссоединения исконно русских земель» у XVIII стагоддзі. Не даведаюцца расійскія школьнікі і пра ўнёскі Беларусі ў культурную скарбніцу, у развіццё эканомікі і г. д. Нашы настаўнікі гісторыі, якія прачытаюць гэты нумар «Беларускага гістарычнага агляду», могуць самастойна параўнаць змест нашых праграмаў і падручнікаў па гісторыі з расійскімі і ўзважыць адносіны беларусаў да рускіх і рускіх да беларусаў, як гэтаму навучаюць у школах. Выглядаючы ў расійскіх падручніках як «исконно русские», але лясныя дзікуны без гісторыі, дзяржавы, культуры, якіх Масква, калі прарубала вокны і дзверы ў Еўропу, «воссоединяла» з дапамогай суворыўскіх «дуры-пули и штыка-молодца», павінны мы падумаць, ці інакш успрымае яна нас зараз, калі стварэецца «брацкі славянскі» саюз. Можа, нам скажуць: «Дзякуйце, што вас вызвалілі з-пад еўрапейска-натаўскага ўплыву». І мы, рахманыя, шчасліва выгукнем: «Дзякуй, браце!»

**Юры МАТУЛЕВІЧ**

# Дзе стаяць Скарыну?

**Дагэтуль у Мінску не знаходзіцца годнага месца для помніка славутаму першадрукару.**

Нагадаем, што рашэнне аб устаноўцы помніка Францыску Скарыну было прынятае яшчэ ў канцы 80-х гадоў. У 1991 годзе адбыўся конкурс на лепшы праект помніка. У конкурсе браў удзел 21 творчы калектыў, а лепшым быў прызнаны аўтарскі праект скульптара Аляксандра Дранца і архітэктараў Аляксандра Камлюка і Яраслава Ліневіча. Праект прадугледжваў устаноўку помніка беларускаму першадрукару ля будынка прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук.



У сваім інтэрв'ю агенцтву БелаПАН скульптар Аляксандр Дранец паведаміў, што цяпер «сітуацыя крышку змянілася»: гарадскія ўлады прапанавалі паставіць помнік Скарыну ў раёне скрыжавання вуліцы Філімонава і праспекта Ф.Скарыны, ля новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі краіны, які толькі яшчэ будзе пабудаваны. На думку А.Дранца, гэты варыянт — яшчэ не канчатковы. Будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі можа зацягнуцца на дзесяцігоддзі, а помнік увесь час не можа стаяць на пустэчы, адзначыў скульптар. *«Я і мае калегі перакананыя ў тым, што неабходна вярнуцца да першапачаткова варыянту ўстаноўкі помніка Францыску Скарыну ля Нацыянальнай акадэміі навук, альбо знайсці яму годнае месца ў раёне Старога горада»,* — заключыў Аляксандр Дранец.

Тым часам, на Скульптурным камбінаце Беларускага саюза мастакоў ужо пачалі адліўку амаль шасціметровай бронзавай скульптуры вагой больш за пяць тон. Па словах супрацоўнікаў камбіната, працу над помнікам плануецца скончыць яшчэ да вясны.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Вежавы гадзіннік спынены

**У Гродне перастаў адмерваць час гарадскі гадзіннік, які знаходзіцца на званіцы Фарнага касцёла. Механізм спыніў яго захавальнік Аляксандр Налівайка. Прычына гэтага кроку — канфлікт з гарадскімі ўладамі.**

Аляксандр вырашыў звольніцца, бо яму няма дзе жыць. Механізм трэба заводзіць кожныя тры дні. Дзеля гэтага майстру даводзіцца прыязджаць за 149 кіламетраў са сваёй вёскі Юравічы з Дзятлаўскага раёна. Улады не стрымалі слова і не забяспечылі яго жытлом. Сам ён набыць яго ў Гродне не можа, маючы зусім невялікі заробак.

А.Налівайка мае ўнікальную ў Беларусі пасаду захавальніка вежавага гадзінніка. Прычым надзвычай рэдкага. Спецыялісты лічаць, што больш нідзе ў Еўропе няма падобных старых гадзіннікаў, якія б дагэтуль паказвалі час гараджанам, прычым — дакладны. Славутаму лонданскаму «Біг Бэну» толькі 150 гадоў, а гро-



дзенскі існуе мінімум 450 гадоў. Спачатку ён знаходзіўся на гродзенскай ратушы, якая была разбураная маскоўскім войскам. Потым яго ўсталявалі на езуіцкім калегіуме, а ў пачатку XVIII ст. — на касцёльнай званіцы. А.Налівайка лічыць, што механізм быў зроблены хутчэй за ўсё ў Чэхіі. Старыя дэталі захаваліся працэнтаў на 65, астатняе давялося аднавіць. Аляксандр правёў яго навуковую рэстаўрацыю пад кіраўніцтвам вядомага піцерскага рэстаўратара старых гадзіннікаў Ю.Платонава.

Зноў паказваць час гродзенцам гадзіннік пачаў у 1997 годзе, але цяпер спыніўся. Ці надоўга?

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Даты і лёсы

## *16 лютага*

**1919.** Савет народнай гаспадаркі БССР прыняў пастанову пра нацыяналізацыю прамысловых прадпрыемстваў.

**1943.** На фасадах мюнхенскіх будынкаў з'явіліся графіці: «Далоў Гітлера! Няхай жыве свабода!», зробленыя суполкай студэнтаў «Белая ружа». 18 лютага смельчакі былі арыштаваныя, а 22-га пакараныя смерцю.

**1959.** 30-гадовы Фідэль Кастра заняў пасаду прэзідэнта Кубы (дзеля гэтага спатрэбілася ўнесці змены ў канстытуцыю, якая патрабавала ад кандыдатаў больш сталага ўзросту).

**1980.** У Францыі на поўнач ад Ліёна ўтварыўся рэкордны аўтамабільны затор даўжынёй 176 км.

**1994.** Рашэннем Вярхоўнага суда РБ была спыненая дзейнасць грамадзянскага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў».

**1998.** Ля міжнароднага аэрапорта Тайбэя падчас пасадкі ўрэзаўся ў жылыя дамы і ўзарваўся авіялайнер А-300. Загінулі 204 чалавекі.

## *17 лютага*

**Па будыйскім календары — Новы (2542) год, год Труса.**

**1856.** У эміграцыі ў Парыжы памёр вялікі нямецкі паэт Генрых Гейнэ, у той час напалову сляпы і разбіты паралюшам. На радзіме творы Гейнэ былі забароненыя з прычыны крытычнага стаўлення да сям'і і шлюбу, якія паэт лічыў рэпрэсіўнымі інстытутамі.

**1880.** Рэвалюцыянер-народаволец Сцяпан Халтурын узарваў бомбу ў Зімнім палацы, мяркуючы забіць цара, але Аляксандр II цудам уратаваўся. У гэты ж дзень у **1905** годзе член партыі эсэраў паэт Іван Каляеў выбухам бомбы забіў у Крамлі маскоўскага генерал-губернатара вялікага князя Сяргея Раманава, які даводзіўся цару Мікалаю II дзядзькам. Абодва тэрарысты скончылі сваё жыццё на шыбеніцы.

**1892.** Царскі ўрад выдаў загад аб прымусовым высяленні габрэяў з вёсак у гарады і мястэчкі.

**1909.** У турме г.Форэст-Стыл (амерыканскі штат Аклахома) памёр апошні індзеец з племені апачаў Пазяхун.

**1929.** Нарадзіўся правадыр змагання палестынцаў за стварэнне нацыянальнай дзяржавы Ясір Арафат.

**1947.** Радыёстанцыя «Голас Амерыкі» пачала вяшчанне на Савецкі Саюз.

**1962.** У выніку найбольш разбуральнай паводкі стагоддзя ў Германіі загінулі 343 чалавекі. У зямлі Шлезвіг-Гальштэйн з палёў быў змыты ўраджай, патанула амаль усё пагалоўе хатняй жывёлы.

**1970.** Амерыканская авіяцыя пачала бамбаванне паўночнав'етнамскіх базаў на тэрыторыі Лаоса. У гэты ж дзень у 1979 г. пачалася інтэрвенцыя кітайскіх войскаў у В'етнам, спыненая праз месяц з дапамогай савецкіх вайсковых дарадцаў.

## *18 лютага*

**1537.** ВКЛ і Маскоўскае княства падпісалі перамір'е, якое доўжылася 21 год, да пачатку Лівонскай вайны. Паводле ўмоваў замірэння, ВКЛ аддала Себеж, але вярнула сабе Гомель.

**1564.** У сваёй майстэрні памёр вялікі мастак эпохі Адраджэння Мікеланджэла Буанароці. Рымскі папа хацеў пахаваць майстра ў саборы св.Пятра, будаўніцтвам якога Мікеланджэла кіраваў, але пляменнік таемна вывез ягонае цела на радзіму, у Фларэнцыю, дзе яно было ўрачыста пахаванае ў царкве Святога Крыжа — пантэоне вялікіх ураджэнцаў горада.

**1649.** Вестфальскім мірам скончылася Трыццацігадовая вайна, якую часам называюць першай сусветнай. Насельніцтва Германіі скарацілася больш як на палову, а сама краіна на працягу стагоддзяў пасля гэтай вайны заставалася падзеленай на дзесяткі маленькіх асобных дзяржаваў. Але галоўны вынік — пачатак мірнага суіснавання двух лагераў, на якія падзялілася Еўропа: каталіцкага і пратэстанцкага.

**1754.** Нарадзіўся вынаходнік першых батарэек, італьянскі граф Алесандра Вольта.

**1911.** Французскі пілот Анры Пеке здзейсніў першы ў гісторыі паштовы авіярэйс — пераvёз з Алахабада (Індыя), дзе адчынілася Сусветная паштовая выстава, 6.500 лістоў у суседні горад Наіні. У гэты ж дзень у **1930 г.** у паветра ўпершыню ўзнялі карову: падчас палёту над амерыканскім горадам Сент-Луіс рагулю даілі, малако налівалі ў пачкі і скідвалі іх уніз на маленькіх парашутах.

**1919.** СНК РСФСР выдаў Беларусі 10-мільённы крэдыт «на арганізацыю і ўмацаванне Савецкай улады».

**1979.** У пустэльні Сахара выпаў снег.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 510 Нумар падпісаны ў друк 15/02/99 (15:00) Наклад — 17.310